# ПЕСНЯ
# З НАВАГРАДЧЫНЫ

У 1855 годзе славуты Уладзіслаў Сыракомля казаў у адным са сваіх артыкулаў, што яму вядомы толькі два беларускія пісьменнікі, якія свядома пачалі пісаць на мове свайго народа: «...адным з іх быў незабыўнай памяці Ян Чачот, другі — В. Д. Марцінкевіч».

З Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам сёння так ці інакш знаёмы ў Беларусі кожны: творы яго, хоць і не вельмі часта, выходзяць усё ж асобнымі выданнямі, друкуюцца ў розных зборніках і хрэстаматыях, вывучаюцца ў школе. Што ж да Яна Чачота, то яго творчасць доўгі час была для нас амаль што terra incognita. Я не скажу, што яна не асвятлялася ў нашым літаратуразнаўстве. У агульных працах па гісторыі беларускай літаратуры пра Яна Чачота вялася гаворка, давалася ацэнка яго творчасці. Асабліва шмат зрабілі для вывучэння спадчыны Я. Чачота даследчыкі гісторыі беларускай літаратуры і культуры Адам Мальдзіс («Творчае пабрацімства», Мн., 1966; «Падарожжа ў XIX стагоддзе», Мн., 1969); Леаніла Малаш («Ян Чачот і яго рукапісныя зборнікі»; у кн.: «Материалы научной конференции» (К сороколетию библиотеки АН БССР, Мн., 1965); Навум Перкін («Абсягі думкі», Мн., 1980) і іншыя. У самых розных выданнях друкаваліся і некаторыя творы паэта. Але асобным выданнем за амаль што два стагоддзі яны не выходзілі ў нас ні разу.

Значэнне творчасці Я. Чачота цяжка пераацаніць. Я. Чачот — гэта досвітак новай беларускай літаратуры, яе першыя крокі, правесне нашага нацыянальнага адраджэння. Ён быў сапраўднай пуцяводнай зоркай для многіх пакаленняў беларускіх пісьменнікаў, яркім прыкладам самаадданага служэння свайму народу.

Нарадзіўся Я. Чачот у 1796 годзе ў вёсцы Малюшычы Наваградскага павета ў сям'і беззямельнага шляхціца. Праз нейкі час сям'я паэта пераехала пад Баранавічы ў фальварак Рэпіхава Навамышскай парафіі (цяпер — Ляхавіцкі раён), дзе яго бацька Тадэвуш Чачот служыў аканомам у памешчыка

Тызенгаўза. Як можна меркаваць з балад Я. Чачота, бацька перавёз потым сям'ю недзе бліжэй да Баранавіч, на раку Мышанку. Пра гэта сведчаць радкі з Чачотавай балады «Мышанка»:

О мілы ўспамін! Дарагая Мышанка!
Зноў сніўся ты ў барве заранак,
Найпершая ў свеце мая ты каханка,
Мінуў тут жыцця майго ранак.

Мае ўсе тут гульні; блуканні, забавы,
Высочваў я рыбку тут днямі,
Траву нёс кароўкам, рваў кветкі, рухавы,
Тут «біўся» не раз з «казакамі».

Тут, па берагах ціхаплыннай Мышанкі, Я. Чачот і пазнаў жыццё запрыгоненага селяніна-беларуса, яго звычаі і абрады, дасканала вывучыў яго мову, запомніў і навек палюбіў яго песні і паданні, казкі і былі. Якраз з іх чэрпаў ён потым тэмы і вобразы для сваіх лепшых твораў.

Адсюль, з баранавіцкіх ваколіц, Я. Чачот малым хлапчуком падаўся на вучобу ў павятовы горад Наваградак у дамініканскую школу, дзе шчыра па ўсё жыццё пасябраваў са сваім аднакласнікам, таксама ўраджэнцам Наваградчыны, будучым вялікім паэтам з сусветным імем Адамам Міцкевічам. Пра пачатак гэтага сяброўства, пра гады вучобы ў Наваградскай школе святых дамініканцаў, ці «белакаптурных», як называлі іх вучні (ад адзення — белы каптур), паэтычна расказвае А. Міцкевіч у вершы, напісаным 24 чэрвеня 1819 года ў час святкавання імянін Я. Чачота:

Яне! Музы наперабой бляск твайго верша ўслаўляюць,
Мне ж памагчы не хочуць — я сам заспяваю.
Са мной ты заўсёды — дома я ці ў прыволлі:
Каго ж больш люблю я, хто ж мілейшы мне болей?
Яшчэ на парозе жыццёвым, у галасе вуліц,
Адны ў нас навукі былі, перапалкі і гулі.
Хто ж, апроч нас з табой, Яне, сваволіў,
Што аж трэсліся сцены, бывала, у школе?
Хто ж да нас белакаптурным так смела пярэчыў,
Пад палкі іх горда падстаўляючы плечы?..
Хаця пра чарцей мы спрачаліся да пасінення,
Хаця, пра душу маю дбаючы, на богамаленні
Мяне ты з аблок, куды я ўсё лётаў у марах,
Зноў да бога вярнуў, таўхануўшы мне ў карак,
Думка адна ўсё ж была ў нас, адна да навук рахуба,
Пакуль не ўзяў цябе ў лапы свае Людзвік Дзюба *.

* Людзвік Дзюба — магчыма, адзін з школьных таварышаў Я. Чачота і А. Міцкевіча альбо з выкладчыкаў дамініканскай школы.

Пачаў ты тады ад стоіцкіх цнот ухіляцца
І жыць не так набожна, жыццём захапляцца.
Тады, сіл паднабраўшы, нібы з крыніцы чароўнай,
Ты перамог Адама фізічна і духоўна...
«Пераклад мой.— *К. Ц.*)

Як відаць з гэтых сяброўскіх прызнанняў, ні Адама Міцкевіча, ні Яна Чачота ўжо не задавальнялі казённыя, часта схаластычныя «навукі», якія ім убівалі ў галовы з дапамогаю бізуноў «белакаптурныя», каго яны не раз «абдурвалі» сваёй «шыфраванай мовай». З затхлых цемнаватых калідораў дамініканскай школы іх неадольна цягнула на волю, на прастор, дзе віравала сапраўднае жыццё, з усімі яго бедамі і радасцямі, з яго дзівоснымі кантрастамі і супярэчнасцямі, і дзе людзі рупіліся зусім іншымі, чым у школе, вельмі далёкімі ад кніжных, турботамі. Неадрыўныя ад жыцця, ад свайго мінулага і сучаснасці, гэтыя людзі часта ў саміх сабе неслі гісторыю: напрыклад, бацька Адама Мікалай Міцкевіч быў удзельнікам паўстання пад кіраўніцтвам славутага, ужо авеянага легендамі мяцежнага Тадэвуша Касцюшкі і мог нямала цікавага расказаць сыну, як і яго сябру Яну Чачоту.

Расказы бывалых людзей, асабліва такіх, абпаленых у бойках, як Мікалай Міцкевіч, паўстанцаў, мэты якіх так і засталіся няспраўджанымі, бунтавалі розум і сэрца дапытлівых юнакоў, гэтакіх непадобных да іншых, часта старэйшых па ўзросту («даўгіх, як чаплі») і тупаватых, няздатных да навукі, але паслухмяных «шкаляроў». Ды і самі сябры добра ўжо бачылі праявы ганебнага нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, парадаксальнай няроўнасці паміж людзьмі, бачылі, як пад нядрэмным цівунскім вокам дзень пры дні, з веку ў век лье крывавы пот, у тры пагібелі згінаецца на полі растлусцелага і тупога ад самазадаволенасці пана-самадура зусім бяспраўны перад законам, аддадзены ў поўную ўладу прыгонніка мужык-хлебароб, які корміць свет, а сам ужо недзе пасля каляд часта толькі ў сне бачыць скарынку чорнага хлеба.

Пра гэта ўжо тады, у школьныя часы, пачыналі задумвацца абодва юнакі, надзеленыя ад прыроды чулай душой і добрымі сэрцамі. Ужо тады са спагадай, з павагаю глядзелі яны на просты люд, з якім сустракаліся на кожным кроку — і ў самім Наваградку, і ў яго ваколіцах. Ці не гэта спагада, гэта павага і цягнула іх больш уважліва прыглядзецца да народнага жыцця, вывучыць вусную паэзію беларуса-селяніна, яго звычаі, абрады, вераванні? Пра зацікаўленасць Яна Чачота і Адама Міцкевіча народнай творчасцю ў часы навучання ў Наваградку сведчыць іх блізкі сябар і зямляк, таварыш па Віленскім універсітэце і таварыстве філаматаў Ігнат Дамейка, які піша ў сваіх успамінах: «Два нашы студэнты Наваградскай школы з гадоў маленства добра ведалі наш літоўскі

(г. зн. беларускі.— *К. Ц.)* люд, палюбілі яго песні, прасякнуліся яго духам і паэзіяй, да чаго, вядома ж, прычынілася і тое, што малое мястэчка Наваградак не шмат чым адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было хутчэй сельскае. Сябры хадзілі на кірмашы, на царкоўныя ўрачыстасці, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і хаўтурах. У тыя школьныя часы ўбогая страха і народная песня распалілі ў абодвух першы паэтычны агонь. Адам хутка ўзнёсся да высокай сферы сваіх цудоўных твораў. Ян жа да смерці застаўся верны народнай паэзіі...»

У 1815 годзе сябры скончылі навагрудскую школу і восенню падаліся вучыцца далей — у Віленскі універсітэт, дзе А. Міцкевіч запісаўся на фізіка-матэматычны факультэт, а Я. Чачот — на факультэт маральных і палітычных навук. Віленскі універсітэт к таму часу быў адной з буйнейшых вышэйшых навучальных устаноў Еўропы. Сярод яго прафесараў былі славуты матэматык і астраном Ян Снядэцкі, яго брат хімік Андрэй Снядэцкі, астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі, буйны знаўца антычнай культуры Эрнст Готфрыд Гродэк, філолаг Лявон Бароўскі (родам з Піншчыны). Якраз у гэты час ва універсітэце працаваў любімец студэнтаў выдатны польскі гісторык і рэвалюцыянер Іяахім Лялевель, які займаў кафедру агульнай гісторыі. На беларускую самасвядомасць студэнтаў рабілі свой уплыў знаўцы беларускай гісторыі і мовы прафесары універсітэта Ігнат Даніловіч і Міхал Баброўскі. Як сведчыць П. Баброўскі ў сваёй кнізе «Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I» (СПб, 1890), у 10—20-х гадах XIX ст. «у Заходніх губернях утварылася... малавядомая партыя, на чале якой былі некаторыя прафесары Віленскага універсітэта (маюцца на ўвазе — І. Даніловіч, М. Баброўскі і інш.— *К. Ц.*)», што «марылі аб адраджэнні беларускай мовы, на якой быў выдадзены Літоўскі статут». Віленскі універсітэт быў адміністрацыйным цэнтрам Віленскай навучальнай акругі, большую частку якой складалі беларускія губерні. З усіх канцоў Беларусі сцякалася сюды моладзь па веды.

Перад маладым хлопцам з Мышанкі Янам Чачотам адкрывалася зіхатлівая дарога ў бясконцы свет навук. З радасцю, з вялікім жаданнем атрымаць адукацыю ўзяўся ён за вучобу. Але, як аказалася, на той дарозе да ведаў ляжала непераадольная перашкода: для збяднелага шляхціца Тадэвуша Чачота вучоба сына ў паважнай навучальнай установе была не па кішэні. Я. Чачот праз год вымушаны быў пакінуць універсітэт і, каб зарабіць на хлеб, уладкаваўся пісарам у так званай Масе радзівілаўскай — спецыяльнай канцылярыі (ці пракуратарыі, як яе называлі) па ўпарадкаванні архіваў князёў Радзівілаў, якая знаходзілася ў Вільні, у доме былога

кардынала Ежага Радзівіла — Кардыналіі. Усё ж мару аб набыцці адукацыі Я. Чачот не пакідаў. Нягледзячы на вялікую занятасць у той канцылярыі, ён працягваў наведваць лекцыі асобных прафесараў Віленскага універсітэта як вольны слухач, вывучаў гісторыю, літаратуру, мовы і асабліва права, імкнучыся стаць адвакатам. «Не ведаю,— пісаў ён 30 верасня 1819 года А. Міцкевічу ў Коўна,— ці можна інačай, як вывучыўшыся на адваката, вырвацца з цяперашняй ганебнай нявол». З гэтага ж пісьма відаць, з якой настойлівасцю ўзяўся Я. Чачот за самаадукацыю: «...мушу развітацца ў гэтым годзе з лютняй, не займацца пісаннем, нават буду менш чытаць твораў, не звязаных з правам, прысвячу ўсяго сябе толькі праву».

Разам з тым дзейсны па натуры Я. Чачот не мог адгарадзіцца ад свету стосамі папер ды кнігамі. Гэта быў час нарастання грамадска-палітычнага руху, накіраванага супроць царскага самадзяржаўя, барацьбы за адмену наскрозь прагнілага прыгонніцкага ладу. Абвешчаныя Вялікай французскай рэвалюцыяй палымяныя лозунгі свабоды, роўнасці, братэрства былі ўзяты на ўзбраенне і перадавымі грамадскімі коламі многанацыянальнай Расійскай імперыі.

Даведаўшыся аб тайнай арганізацыі студэнтаў Віленскага універсітэта — таварыства філаматаў (аматараў навук), Я. Чачот, не задумваючыся, уступае ў гэту арганізацыю, каб прыняць у ёй самы актыўны ўдзел.

Узнікла таварыства ў 1817 годзе. Заснавальнікамі яго былі студэнты універсітэта Тамаш Зан, Адам Міцкевіч і Юзаф Яжоўскі. Паколькі розныя згуртаванні, тым больш тайныя, строга забараняліся царскімі ўладамі, філаматы былі вельмі асцярожныя ў падборы новых членаў. Выбіраліся толькі надзейныя і здатныя да навуковай дзейнасці і літаратурнай творчасці студэнты. Таму таварыства філаматаў было нешматлікай арганізацыяй. За ўвесь час свайго існавання ў яго ўваходзіла толькі дзевятнаццаць чалавек. Але гэта было па сутнасці толькі ядро больш шырокай арганізацыі моладзі. Філаматы імкнуліся пашырыць свой уплыў на ўсю моладзь акругі Віленскага універсітэта — г. зн. Беларусі, Літвы і часткі Украіны. Таму яны шмат намаганняў прыкладалі для стварэння больш прадстаўнічых арганізацый. Першы быў імі створаны Саюз сяброў, у які за адзін год увайшло 30 студэнтаў. У 1820 годзе намаганнямі Тамаша Зана было арганізавана Таварыства прамяністых, якое за кароткі час сабрала каля 200 членаў. Гэта была знешне легальная арганізацыя. Баючыся, каб яна не набыла непажаданага накірунку, універсітэцкія ўлады загадалі яе ліквідаваць. Тады філаматы на аснове Таварыства прамяністых стварылі тайную арганізацыю — Таварыства філарэтаў (прыхільнікаў дабрачыннасці), якое пад-

раздзялялася на чатыры аддзелы (саюзы) — фізіка-матэматычны, юрыдычны, літаратурны і медыцынскі.

Філаматы рэгулярна збіраліся на пасяджэнні, на якіх чыталі навуковыя трактаты, свае мастацкія творы, абмяркоўвалі іх, рабілі агляды замежнай і айчыннай прэсы, вялі дыскусіі па розных пытаннях культуры, навукі, грамадскага жыцця. Яны імкнуліся ўсебакова вывучыць свой край, дзеля чаго рабілі апісанні асобных паветаў і парафій, звяртаючы асаблівую ўвагу на фальклор, этнаграфію, на стан асветы. Дзеля гэтага яны ў 1821 г. падрыхтавалі і распаўсюдзілі спецыяльную інструкцыю «Геаграфічнае апісанне, альбо Інструкцыя для арганізацыі апісання парафіі». Для пашырэння сваіх ідэй філаматы скарыстоўвалі розныя маёўкі, вечарынкі, імяніны, нават «карысныя забавы».

З кожным годам таварыства філаматаў пашырала поле сваёй дзейнасці. Апрача Вільні яно арганізавала філарэцкія філіі таксама і ў правінцыі. Кожны з філаматаў абавязаны быў, выехаўшы на канікулы ў родныя мясціны, весці работу сярод насельніцтва, арганізоўваць моладзь у тайныя згуртаванні. Тут асабліва праявіў свой арганізатарскі талент філамат Міхал Рукевіч, які стварыў у Беластоку таварыства «Згодныя сябры», а ў Свіслачы — таварыства «Заране». Міхал Рукевіч знайшоў нават шлях да афіцэраў Літоўскага асобнага корпуса царскіх войск, што быў расквартараваны ў Гродзенскай губерні, і арганізаваў сярод іх таварыства «Ваенныя сябры», якое потым адкрыта выступіла ў падтрымку паўстання дзекабрыстаў.

Спачатку мэтай таварыства філаматаў было, як зазначалася ў статуце, узаемадапамога ў набыцці адукацыі і маральнае ўдасканаленне. Але ўжо ў новым, прынятым у 1818 годзе, статуце мэта таварыства пашыралася. Апрача «ўласнага самаўдасканалення», філаматы павінны былі садзейнічаць «па меры мажлівасці ўсеагульнай асвеце». З часам мэты таварыства рабіліся яшчэ больш радыкальнымі, што, вядома ж, не магло быць дзеля канспірацыі адлюстравана ў статутах. Як відаць з матэрыялаў, якія дайшлі да нас, таварыства філаматаў рыхтавала грамадства да рашучай барацьбы з царызмам.

Ян Чачот быў душой таварыства філаматаў. Разам з Тамашам Занам, Адамам Міцкевічам, Юзафам Яжоўскім ён аддаваў арганізацыі ўсе свае сілы, увесь свой малады запал. Усе найбольш важныя падзеі філамацкага жыцця не праходзілі без яго самага актыўнага ўдзелу. Нейкі час Я. Чачот быў сакратаром таварыства. Ён актыўна выступаў на яго пасяджэннях з чытаннем сваіх твораў, з разглядам творчасці іншых філаматаў, з навуковымі паведамленнямі, у прыватнасці з аглядам варшаўскай прэсы. Аб грунтоўнасці і сур'ёзнасці гэтых выступленняў сведчыць прачытаная на адным з пася-

джэнняў яго рэцэнзія на баладу А. Міцкевіча «Курганок Марылі». Але больш за ўсё цанілі філаматы Я. Чачота за яго песні і вершы, якія ён пісаў да ўсіх сходак і вечарынак, што арганізоўвалі філаматы, каб прыцягнуць у сваё кола віленскую моладзь. Я. Чачот стаў як бы штатным «песняром» таварыства. Прычым «спецыяльнасцю яго, як падкрэслівае «Польскі слоўнік біяграфічны» (т. 4, 1938), былі беларускія песні, якія ён складаў на падзеі дня па ўзору народных песень».

Калі было ўтворана таварыства філарэтаў, Я. Чачот стаў кіраўніком найбольш важнага яго аддзела (саюза) — літаратурнага. Ён вельмі актыўна ўзяўся за згуртаванне мясцовых творчых сіл, за выхаванне літаратурнай моладзі, з вялікай патрабавальнасцю ставячыся да яе творчасці, за што маладыя літаратары жартам празвалі яго «ментарам». Сярод 26 членаў літаратурнага саюза мы бачым імёны такіх розных па таленце і схільнасцях літаратараў і дзеячаў культуры, як Аляксандр Ходзька, Дамінік Ходзька, Ежы Ягела, Руфін Юндзіл, Юзаф Кавалеўскі, Фелікс Кулакоўскі, Мікалай Казлоўскі, Міхал Кулеша, Антоні Эдвард Адынец, Людвік Папроцкі, Ян Вернікоўскі, Міхал Данейка, Тамаш Краскоўскі, Францішак Левандоўскі, Тамаш Масальскі, Ігнат Станкевіч, Тамаш Зан, які быў адначасова і старшынёй (прэзідэнтам) усяго таварыства філарэтаў.

У 1823 годзе таварыства філарэтаў, а за ім і само таварыства філаматаў было выкрыта царскімі ўладамі. Для расследавання ступені вінаватасці яго членаў, маштабу дзейнасці згуртаванняў моладзі ў Вільню быў пасланы сенатар Навасільцаў. Па яго загадзе каля 100 філарэтаў і філаматаў, пакуль вялося бясконцае следства, былі кінуты ў халодныя сцены базыльянскага кляштара,ператворанага ім у турму. Следства закончылася ў красавіку 1824 года. Зняволеных выпусцілі з кляштара, апрача чатырох — Тамаша Зана, Яна Чачота, Адама Сузіна і Яна Янкоўскага. Для вынясення прыгавора цар Аляксандр I стварыў спецыяльны камітэт, у які ўваходзілі сенатар Мікалай Навасільцаў, міністр асветы Аляксандр Шышкоў і генерал Аляксей Аракчэеў. Згодна з прыгаворам, які быў зацверджаны царом, дзесяць філаматаў і дзесяць філарэтаў высылаліся ў «аддаленыя губерні» Расіі. Адам Міцкевіч, Юзаф Яжоўскі, Францішак Малеўскі і іншыя філаматы і філарэты былі вывезены ў Пецярбург. Самы суровы прысуд вынеслі тром найбольш актыўным удзельнікам згуртаванняў моладзі — Тамашу Зану, Яну Чачоту і Адаму Сузіну, якіх высылалі на Урал, дзе яны павінны былі яшчэ адседзець у турме: Т. Зан — год, а Я. Чачот і А. Сузін — па паўгода. Я. Чачот трапіў у крэпасць Кізіл. Адтуль яго перавялі ва Уфу, а потым — у Цвер. У 1833 годзе яму дазволілі — пад нагляд паліцыі — вярнуцца ў Беларусь, у Лепель, дзе ён уладкаваўся на

працу ў дырэкцыі Бярэзінскага канала. І толькі ў 1839 г. «государь император высочайше повелеть соизволил», як гавораецца ў цыркуляры, адпусціць Я. Чачота дамоў, на Наваградчыну, і зняць з яго паліцэйскі нагляд. Я. Чачота, здароўе якога было падарвана за гады зняволення і ссылкі, узяў на пасаду бібліятэкара былы апякун філаматаў ліберальны граф Храптовіч, які валодаў адной з багацейшых у Еўропе шчорсаўскай бібліятэкай. Пасля смерці гаспадара Я. Чачот жыў у сваіх сяброў на Наваградчыне — у вёсках Бортнікі, Вольная і Далматоўшчына, займаўся выданнем зборнікаў беларускага фальклору.

Пасля цяжкая хвароба прывяла яго ў Друскенікі, «на воды». Але лячэнне не дало ніякага выніку, і 23 жніўня 1847 года Ян Чачот, не дажыўшы да пяцідзесяці гадоў, памёр у вёсцы Ротніца. Адам Міцкевіч, са спазненнем даведаўшыся пра смерць свайго сябра, з болем у сэрцы пісаў 26 чэрвеня 1853 года Ігнату Дамейку з Парыжа ў Чылі: «Дарагі Ігнат, вось штокольвек пра нашых былых сяброў і мінулыя часы. З двух канцоў зямлі, якія аддалілі нас адзін ад аднаго, мы бачым па-рознаму цяперашнія часы, у мінулым жа мы сустракаемся па-ранейшаму. Не ведаю, ці вядома табе, што ад нас пайшоў твой ранейшы знаёмы, а мой стары друг (з першага класа) Ян Чачот. Дзень яго смерці нам невядомы. Мы даведаліся толькі, што ён памёр. Прыблізна ў той час, калі ён памёр, мне ўсё снілася пра яго адно і тое ж: што ён прыехаў у Парыж, а я з-за нейкіх перашкод не магу з ім пабачыцца. Гэта мучыла мяне ў сне, і я прачынаўся сумны. Мне доўга не хацелася верыць звесткам пра яго смерць, якія ў нас так цяжка праверыць. Цяпер я ведаю пэўна, што ён памёр. Доўгія гады і многа ўспамінаў звязвалі мяне з ім. Перад смерцю ён выдаў беларускія песні, і яны там у нас выклікалі многа спачуванняў...»

Сваю літаратурную творчасць Я. Чачот распачаў недзе каля 1818 года, і звязана яна была з таварыствам філаматаў. Песні і вершы да студэнцкіх урачыстасцей пісалі (а часта і проста імправізавалі) разам з Янам Чачотам яшчэ Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ануфры Петрашкевіч і іншыя філаматы. «Аднак — як заўважае вядомы польскі фальклярыст Станіслаў Свірка ў сваёй кнізе «З кола філамацкага перадраманцызму», выдадзенай у 1972 годзе ў Варшаве — найманцней адбілася ў жыцці філаматаў песенная творчасць якраз Чачота. Не было імянін, маёўкі ці сяброўскага сходу, якога б Янак (альбо Ян з Мышы — як яго таксама звалі) не аздобіў сваімі сардэчнымі «песенькамі», як заўсёды, патрыятычнымі, народнымі па сваім духу, пярэдка напісанымі на матыў песні беларускага люду...»

Тыя песні Яна Чачота, і польскія, і беларускія, якія дайшлі да нас дзякуючы публікацыі Яна Чубэка і іншых поль-

скіх даследчыкаў, паказваюць нам песенны талент паэта. Напеўнасць, «крылатасць», непасрэднасць і празрыстасць верша — гэтыя якасці дазвалялі Чачотавым песням вельмі лёгка класціся на музыку. Зрэшты, Ян Чачот звычайна пісаў іх на гатовы ўжо матыў добравядомых яму беларускіх народных песень. Пры гэтым ён не забываўся пазначыць, на матыў якой канкрэтна народнай песні трэба было спяваць напісаны ім верш.

Вельмі любілі філаматы, ды і наогул віленская моладзь, напрыклад, вясёлую, жыццярадасную песню Яна Чачота «Што старыя за вар'яты», напісаную дзесьці ў 1818 ці 1819 годзе на матыў беларускай народнай песні «Чаму дзеўку не любіць, калі дзеўка ладна», што адзначыў сам аўтар.

Такой жа бадзёрай, аптымістычнай была вельмі папулярная таксама сярод моладзі песня Яна Чачота «Прэч, прэч, сум, нудоты...». У прыпісцы да яе аўтар сказаў, што напісана яна на матыў песні «крывічан», як зваў ён беларусаў, песні, якая пачыналася словамі: «Сем дзён малаціла, чах, чах — зарабіла...» Ахвотна спявала моладзь і песні Яна Чачота, якія былі ім створаны на матывы беларускіх народных песень, што пачыналіся такімі словамі (іх зноў-такі аўтар прыводзіць — каб ведалі, як іх спяваюць): «Ой валы ж мае да палавыя», «Бяду сабе купіла да за свае грошы», «Як не бачу Петруся, то я з ветру валюся» і інш. Шмат такіх песень было напісана Я. Чачотам у турэмных сценах. Усе яны прызначаліся яго каханай Зосі Малеўскай — прывабнай дачцэ рэктара Віленскага універсітэта, у кватэры якога часта збіраліся філаматы, бо сын яго Францішак Малеўскі таксама быў членам таварыства. Гэтыя песні Зося выконвала пад фартэпіяна.

У многіх песнях Яна Чачота адбіліся антыўрадавыя настроі моладзі, вольналюбівыя ідэі аўтара. Гэтыя творы віленская моладзь заўсёды прымала бурнымі воплескамі, а самога аўтара часам падымала «на ўра».

Але самы вялікі поспех у моладзі, большасць якой паходзіла з апалячанай беларускай шляхты, мелі тыя філамацкія творы Яна Чачота, што былі напісаны па-беларуску. Сам факт звароту да мовы запрыгоненага, бяспраўнага мужыкабеларуса гаварыў пра многае, і перш за ўсё пра адкрыты дэмакратызм паэта.

Першыя з беларускіх твораў Яна Чачота, якія дайшлі да нас, былі тыя, што напісаў паэт да імянін старшыні Таварыства філаматаў Юзафа Яжоўскага, які быў родам з Украіны. Спраўляліся гэтыя імяніны 7 сакавіка 1819 года і называліся «Яжовыя».

Сам Ян Чачот, які заўсёды выступаў са сваімі вершамі на такіх урачыстасцях, тым разам прыехаць на свята не здолеў. Як службовец «масы радзівілаўскай» ён у гэты час быў накі-

раваны ў Мінск. Адтуль паэт і прыслаў свае вершы сябрам у Вільню, выказаўшы пры гэтым — зноў-такі ў вершаванай форме — шкадаванне, што ў той час, як яго прыяцелі «апаражняюць бутэлькі» ў вясёлым застоллі, ён «посціць, як святы», у Мінску, дзе яго прымушае «маршчыніць чало мазольная пасада пісара». Прысланыя вершы Яна Чачота зачыталі на ўрачыстасці Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, а тыя, што былі для спеву, выконваліся жаночым і мужчынскім хорамі.

Гэта была нечуваная з'ява: публічна, перад цветам віленскай моладзі і студэнтамі, якіх сабралася нямала (да імянін кіраўніка філаматаў былі прымеркаваныя яшчэ і імяніны другога Юзафа — Кавалеўскага), упершыню на ўвесь голас гучала адлітая ў паэтычныя строфы беларуская мова — мова лапцюжнага непісьменнага мужыка! Аб тым ураджанні, якое зрабілі тады на слухачоў беларускія вершы і песні Яна Чачота, сведчыць хоць бы той факт, што адзін з гэтых слухачоў Ігнат Дамейка, які, апынуўшыся ў эміграцыі ў далёкім Чылі, нават праз 50 гадоў прыгадаў строфы з песні «Што ж мы вашэці скажам», прывёўшы іх у сваіх успамінах.

Папулярная сярод моладзі была і песня «Да пакіньце горла драць». Напісаў яе паэт да імянін сябра-філамата Дзіянісія Хлявінскага. Выконвалася яна — з адпаведнымі папраўкамі — і на імянінах іншых філаматаў. Да нас песня дайшла (праўда, не цалкам) у варыянце, які спяваўся на імянінах Францішка Малеўскага (Яроша) — сына рэктара Віленскага універсітэта. Пачыналася песня так:

Да пакіньце горла драць,
Да пакіньце, братцы, спяваць!
Да клікнейма адно раз:
Будзь здароў, наш Ярош!
Благаславі яго Спас!..

Тут у рукапісе аказаўся пропуск. Пасля ішлі радкі:

Да дай красну дзевачку,
Каб ён з сэрца пакахаў,
Да з гарэлкай пляшачку —
Сват ад яго к ней ехаў.
Гайда, гайда, гайда, гайда!..

У канцы абыгрывалася беларуская народная іншасказальная формула, якую звычайна казалі сваты.

Пра той вялікі поспех, які выпаў на долю гэтай вясёлай песні, расказвае ў пісьме да Адама Міцкевіча 16 лістапада 1819 года сам аўтар: «На імяніны Дзіянісія я напісаў некалькі мужыцкіх песень (заўважце, некалькі.— *К. Ц.*), сярод якіх апошняя «Да пакіньце горла драць» найбольш прыйшлася даспадобы Тамашу (Зану.— *К. Ц.*), ён прыдумаў да яе, як ты ведаеш, матыў і лез з ёй да ўсіх, як цыган на кірмашы. А раз

спадабалася песня, я мусіў напісаць вершы і для Яроша і той самы верш «Да пакіньце горла драць» перарабіць для яго. І не толькі гэта, але і «Што ж мы вашэці скажам», разахвочаныя, спявалі. Словам, на імянінах і чыталі, і спявалі...»

Адаму Міцкевічу не проста спадабаліся беларускія песні Яна Чачота — і тыя, што ён сам чуў на імянінах у Юзафа Яжоўскага, і гэта апошняя, «Да пакіньце горла драць», пра якую ён ведаў з пісьмаў сяброў-філаматаў. У гэтых песнях ён убачыў нешта больш значнае, больш важнае, чым звычайныя творы. Сваё захапленне песнямі Яна Чачота ён выказаў у пісьме да яго ад 27 лістапада таго ж года: «Што мяне... узрадавала — прызнаюся табе па-філаматцку — гэта твая песня, правільней, твае песні, я бачу ў іх агромністы і хуткі прагрэс з часу твайго ўступлення на пісьменніцкую дарогу. Лёгкасць, ды прытым агонь, сапраўды піндараўскі, пераўзышлі нават тыя надзеі, якія я ўскладаў на цябе. Прэч з дарогі, Заны, прэч, Адамы! Не лянуйся, калі ласка! Ты пішаш усё лепш...»

Беларускія песні Яна Чачота ведалі і спявалі ўсе філаматы. Ведаў і спяваў іх з сябрамі і Адам Міцкевіч. Адзін маленькі факт, пададзены ў пісьме Тамаша Зана да Верашчакаў ад 31 кастрычніка 1820 года. Едучы неяк у Вільню, Тамаш Зан заначаваў у заезным доме ў Канвалішках. Раптам сярод ночы яго будзіць гучны і вясёлы спеў:

Да пакіньце горла драць!..

Калі ён прахапіўся, то ўбачыў перад сабой двух сваіх сяброў Адама Міцкевіча і Яна Чачота. Яны ехалі з Вільні ў Наваградак і таксама спыніліся на гэтай станцыі. Даведаўшыся, што тут начуе іх сябар Тамаш Зан, яны такім во чынам і выказалі сваю радасць ад сустрэчы.

Бачачы прыхільнасць Адама Міцкевіча да твораў на беларускай мове, Ян Чачот у гонар ягонага вельмі чаканага ўсімі філаматамі прыезду з Коўна піша прывітальны верш:

Едзеш, міленькі Адам,
Глядзіце, а онь, а онь,
Ды ён харошанькі сам,
Пад нём — варанепькі конь.
Золатам пояс ззяе,
Аж ад бляску снег тае,
На шапцы сіні барац,—
Хто бы думаў, што ён пан!
Так адзет харашэнька,
Едзе, едзе бардзенька.
Гайда...

Заканчваўся верш такім шчырым сяброўскім прызнаннем...

Без цябе ўсё тут смутна,
Па табе плача гай,

І рэчкі плывуць мутна,
У жалобе ўвесь край.

Наш ты міленькі Адам,
Насмуціў жа ты нас досць.
Нарадзі смутак нам
І будзь у нас доўга госць.

Калі разам з іншымі філаматамі і філарэтамі Ян Чачот трапляе ў турму, у гэты цяжкі час ён зноў звяртаецца да беларускай мовы. Ён піша на ёй песню, у якой выказвае пачуцці зняволеных таварышаў. Гэта песня, на жаль, не захавалася. Да нас дайшлі толькі два радкі, якія прывёў у сваіх пазнейшых успамінах адзін са зняволеных Отап Слізень:

Да лятуць, лятуць, да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі...

Як паказвае Адам Мальдзіс у кнізе «Падарожжа ў XIX стагоддзе» (Мінск, 1969), у Яна Чачота былі ў той час і іншыя беларускія творы, і сярод іх п'еса ў гонар Адама Міцкевіча, напісаная для тэатра: пра яе ўпамінае ў пісьме Рамуальд Зямкевіч. На жаль, гэта п'еса, як і шмат іншых твораў паэта, да нас не дайшла.

На маю думку, беларускія песні і вершы Яна Чачота філамацкага перыяду па сённяшні дзень не ацэнены як трэба ў літаратуразнаўстве. Вядома, калі мераць іх сённяшнімі меркамі, у іх шмат можна знайсці недахопаў. Але ж не трэба забываць, што Ян Чачот быў, як ужо гаварылася, першапраходцам у беларускай паэзіі, ён ішоў па цаліне, яму трэба было яшчэ ўздымаць гэту, кажучы словамі Янкі Купалы, «скібіну слова».

Тым не менш у беларускіх творах Яна Чачота сапраўды ёсць тая «лёгкасць», той паэтычны «агонь», пра які казаў Адам Міцкевіч. Мова твораў Чачота, калі апусціць не такія ўжо і шматлікія паланізмы, мала чым адрозніваецца ад сённяшняй беларускай літаратурнай мовы. Яна ў яго багатая, гнуткая, з многімі адценнямі. Узорам для Яна Чачота служыла мова беларускіх народных песень.

У філамацкіх беларускіх вершах Яна Чачота, і перш за ўсё ў драматычнай сцэнцы, можна ўбачыць выразныя адзнакі часу, некаторыя асаблівасці быту беларускай дарэформеннай вёскі, яе сацыяльную структуру. Даволі жывым, «бачным» паўстае перад намі вобраз цівуна, які выступае тут ад імя сялян, не адрываючы і сябе ад іх, і які выяўляе немалую дасведчанасць у многіх рэчах, нават у гісторыі. Хай, можа, ён тут трохі і ідэалізаваны, але ўсё ж няма ў ім той аднабаковасці, якую мы прывыклі бачыць у гэтым сацыяльным тыпе, што стаў сімвалам прыгонніцтва. Вельмі прываблівае ў сцэнцы вобраз вясковых дзяўчат-сялянак. Хоць дзяўчаты спачатку —

такі ўжо ў беларусаў характар! — і «прыбядняюцца» (быццам не могуць «звязаць» песні, бо ў іх, бачыце, «мысль не багата»), але ж папраўдзе ўмеюць яны і «звязаць» словы, і скласці цудоўную песню. Ды і пачуццё годнасці ў іх ёсць: яны прама кажуць панічу, што сярод іх знойдуцца і такія, якія будуць вартыя і яму ў жонкі, трэба толькі ўмець пасватацца. Праўдзівая ў Чачота і характарыстыка вясковых хлопцаў. Хоць яны «ад сахі, ад бараны... пісаць, чытаць не учаны», але ж таксама ўмеюць і песню спець, і выказацца як трэба. З твора відаць і іх адносіны да рэкрутчтва, ад якога яны звычайна ўцякаюць у лес. Надзвычай цікава тое, што сялянскія хлопцы трывожацца за лёс сваёй мовы, называючы яе «рускай», мовы, якой цураюцца паны, што «па-польску ўсё гавораць». Вядома ж, Ян Чачот у вусны сваіх герояў уклаў сваю заклапочанасць мовай народа.

Ян Чачот і потым пісаў вершы і песні на беларускай мове, якія ён змясціў у фальклорных зборніках у 1844 і 1846 гадах. Гэта былі ўжо больш дасканалыя ў мастацкіх адносінах творы, палепшылася і іх мова, пашырылася тэматыка. У іх таксама паэт праявіў сваю павагу да роднага народа, выказваў сваё спачуванне да яго незайздроснай долі. Так, у вершы «Да мілых мужычкоў» паэт пісаў:

Да і я ж вам памагу
Песеньку спяваці,
Ды і я ж міжы вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.
І мне бог на свеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.
Ой, што ж вы папелі тут,
Да якога дзіва!
Шкода, што па голас ваш
Старонка драмліва.
А як прачнецца з сна
Гэта Дабрадзейка,
Пэўна, будзе слухаць вас
Лепш, як салавейка.

З болем у сэрцы гаворыць Я. Чачот пра беспрасветную долю беларуса-селяніна і ў вершы «Нашто нам дым выядае вочкі?», дзе паказвае, у якіх жахлівых умовах даводзіцца яму жыць. У асобных вершах паэт абураецца жорсткасцю акапомаў, якія бязлітасна эксплуатавалі сялян («Покуль сонца ўзыйдзе»).

Але ў большасці вершаў Я. Чачот імкнуўся прымірыць селяніна з панам. «Дабрачынных паноў» ён заклікаў (часцей у польскамоўных творах) клапаціцца «пра добры быт сялян», любіць іх, за што бог узнагародзіць такіх апекуноў «шча-

сцем... і ў нябёсах, і на зямлі». У сваю чаргу і сялян вучыў Я. Чачот любіць свайго пана, слухацца яго, добраахвотна ісці на паншчыну, не чакаючы, пакуль іх нагоніць туды цівун бізуном. У гэтых «прымірэнчых» вершах праявіўся характэрны для многіх прадстаўнікоў польскага грамадска-палітычнага руху XIX стагоддзя так званы класавы салідарызм. Дыктаваўся гэты салідарызм перш за ўсё неабходнасцю кансалідацыі ўсіх грамадскіх сіл у барацьбе з царызмам, за аднаўленне былой польскай дзяржавы, падзеленай у канцы XVIII стагоддзя паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Беларуская інтэлігенцыя таксама падтрымлівала гэтыя салідарысцкія ідэі, таксама змагалася за аднаўленне Рэчы Паспалітай, бо добра яшчэ помніла пра былую адносную самастойнасць Вялікага княства Літоўскага ў гэтай федэратыўнай дзяржаве. Вырашэнне сацыяльных пытанняў такія дзеячы ставілі ў залежнасць ад нацыянальнага вызвалення. Да таго ж многія з іх спадзяваліся на добрую волю паноў, якія быццам бы самі захочуць адмовіцца ад ганебнага прыгоннага права, самі вызваляць сялян. Трэба толькі навучыць прыгоннікаў «палюбіць» сваіх падданых.

Галоўную ўвагу ў адрасаваных сялянам вершах Я. Чачот звяртаў на іх маральнае ўдасканаленне. Ён вучыў цёмнага, непісьменнага, забітага горам мужыка самым простым рэчам: не губіць сваё жыццё ў гарэлцы, не гультайнічаць, быць сумленным чалавекам, працавітым і клапатлівым гаспадаром.

Грамадзянскі пафас беларускіх вершаў Я. Чачота вельмі выразны. І ніяк нельга пагадзіцца са сцверджаннем А. Лойкі, быццам «для Чачота беларускія вершы былі практыкаваннямі на беларускай мове» і што «творы на беларускай мове ён выдаваў для нашчадкаў, асабліва для навукоўцаў-лінгвістаў, стараючыся захаваць для іх яе непаўторныя ўзоры» (А. Лойка. «Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд». Частка першая. Мн., 1977, стар. 10—11). Так, Я. Чачота і «аматары славяншчыны» падахвочвалі пісаць па-беларуску. Але ж галоўным матывам было зусім не гэта. Паэт думаў не пра навукоўцаў-нашчадкаў, а пра сучаснага яму селяніна, шчыра жадаючы палепшыць яму долю. Вось якое жаданне выказвае сам аўтар у прадмове да «Сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны» (1844), друкуючы там свае творы: «Ці не перанесліся б яны як-небудзь да вёсак? Ці не дайшлі б да сэрцаў дабрачынных паноў і ці не звярнулі б больш чулую ўвагу на сялян, а разам з тым ці не прычыніліся б да палепшання np гэтых працавітых суайчыннікаў?»

З літаратурнай спадчыны Яна Чачота вялікую цікавасць маюць таксама напісаныя ім у 1818—1819 гадах на польскай мове балады, якія адыгралі надзвычай важную ролю ў творчай біяграфіі яго славутага сябра — Адама Міцкевіча.

Да нас дайшло восем балад Яна Чачота, якія ён заснаваў на вуснай паэзіі народа.

Польскія даследчыкі як след не ацанілі яшчэ мастацкіх вартасцяў балад Яна Чачота. Галоўныя іх недахопы яны бачаць у рыхласці кампазіцыі, зацягнутасці, а таксама ў тым, што аўтар сляпа трымаўся фальклорнай асновы, а галоўнае — карыстаўся гутарковай мовай, «засмечанай» шматлікімі «правінцыялізмамі», «дыялектызмамі», інакш кажучы, беларускімі словамі і выразамі.

Затое польскія фалькларысты надаюць баладам Яна Чачота надзвычай важнае значэнне, бо яны данеслі да нас вельмі многа каштоўных звестак з фальклору, амаль цалкам беларускага. Ва ўсіх васьмі баладах Янам Чачотам было «зафіксавана», як падлічыў Станіслаў Свірка, дванаццаць паданняў і народных казак, а таксама дзесяць матываў з народных вераванняў і звычаяў. Прычым як народныя паданні і казкі, так і гэтыя матывы пададзены аўтарам з вялікай дакладнасцю.

Доўгі час у літаратуразнаўстве нічога не было вядома нават пра існаванне большасці з гэтых балад Яна Чачота.

Упершыню пра іх расказаў у польскім друку ў 1886—1889 гадах, г. зн. праз шэсцьдзесят гадоў пасля напісання, Ян Рыхтэр, які натрапіў у паперах аднаго з сяброў паэта — гаспадара маёнтка Цешаўля Навагрудскага павета Адольфа Кабылінскага — на рукапісны сшытак з Чачотавымі баладамі. Але хутка гэты сшытак зноў на доўгі час выпаў з поля зроку даследчыкаў. Яго лічылі страчаным. Другі раз яго знайшоў у 1953 годзе — зноў праз шэсцьдзесят з лішнім гадоў! — другі польскі даследчык Чэслаў Згажэльскі: як аказалася, перададзены ў бібліятэку Асалінскіх у Львове, сшытак быў няправільна зарэгістраваны і патануў у папяровым моры, адкуль быў выпадкова выцягнуты на святло. І толькі нядаўна — яшчэ амаль праз дваццаць гадоў, а канкрэтней у 1972 годзе,— усе восем знойдзеных балад Яна Чачота былі апублікаваны — упершыню! — Станіславам Свіркам у памянёнай кнізе «З кола філаматаў з перадрамантызму». Інакш кажучы, больш чым сто пяцьдзесят гадоў яны былі схаваны ад чытацкіх вачэй.

Балады Яна Чачота надзвычай зацікавілі генія польскай літаратуры, у якой ён тады толькі шукаў сваю дарогу. Як вядома, у першых сваіх творах Адам Міцкевіч прытрымліваўся прынцыпаў класіцызму. А яго сябры-філаматы Ян Чачот і Тамаш Зан настроілі ўжо свой паэтычны слых на новыя павевы часу. А гэта быў час, калі ў выніку нарастання ўсеееўрапейскага руху за разняволенне народаў устарэлыя каноны класіцызму станавіліся ўсё больш цеснымі для літаратуры, якая імкнулася адлюстраваць новыя, больш радыкальныя настроі ў перадавых колах грамадства. Адзін з галоўных шляхоў абнаў-

лення літаратуры перадавыя яе прадстаўнікі бачылі ў звароце да народнага жыцця, да фальклору. Гэты шлях якраз і выбраў шчыры народалюбец Ян Чачот, які з поўным усведамленнем важнасці сваёй справы ўзяўся за мастацкае асваенне фальклорнай спадчыны беларускага народа.

Пра ролю Яна Чачота ў нараджэнні рамантызму ў польскай літаратуры добра расказаў Станіслаў Свірка ў напісаных ім раздзелах кніг «Народнасць у Міцкевіча», якая выйшла ў Варшаве ў 1958 годзе, «Гісторыя польскай фалькларыстыкі: 1800—1863» (Варшава, 1970) і ў памянёнай кнізе «З кола філамацкага перадрамантызму». Вядомы польскі фалькларыст прыйшоў да вываду, што «...тыя «песенькі» і «балады» Чачота былі галоўным імпульсам, які падштурхнуў Міцкевіча ў кірунку народнасці, а калі казаць больш канкрэтна, у кірунку баладнасці...». Вядома, даводзіць даследчык, на Адама Міцкевіча ўплывалі і іншыя філаматы, асабліва Тамаш Зан і Ануфры Петрашкевіч, якія таксама выкарыстоўвалі беларускі фальклор у сваёй паэтычнай творчасці, але ўсё роўна «найвыдатнейшым піянерам народнасці сярод філаматаў быў Чачот, якраз яго ўплыў на Міцкевіча аказаўся ў гэтым плане наймацнейшым...». Так, разважае далей польскі вучоны, Ян Чачот «не навучыў... Міцкевіча пісаць рамантычную паэзію, таму што сам гэтага не ўмеў, аднак паказаў яму новую крыніцу творчасці і новую дарогу. Таму што быў Чачот філамацкім маяком, які стаяў на віленскіх ростанях класіцызму і рамантызму і які нязменна паказваў на народнасць. Міцкевіч пайшоў у тым кірунку, і дарога тая прывяла яго да вялікай рамантычнай і народнай паэзіі».

Адам Міцкевіч быў, вядома ж, вельмі ўдзячны за ўсё свайму сябру. Недарэмна, прысвячаючы сваю першую, сапраўды праграмную кнігу «Балады і рамансы» сябрам-філаматам, першым сярод іх ён назваў імя Яна Чачота.

Станіслаў Свірка, супаставіўшы балады Яна Чачота з пазнейшымі «Баладамі і рамансамі» Адама Міцкевіча, знайшоў вельмі многа прыкладаў творчага выкарыстання таго багатага фальклорнага і жыццёвага матэрыялу, які быў у творах яго сябра.

Для гісторыі літаратуры маюць цікавасць таксама польскамоўныя вершы Я. Чачота, напісаныя ім як у філамацкі перыяд, так і пазнейшыя, якія былі часткова выдадзены ў Вільні ў 1846 г. пад назвай «Piesni ziemianina». Біёграфы паэта не абыдуць увагай, вядома ж, і яго «трэны» і гістарычныя «песні», у якіх ён хацеў намаляваць гісторыю Беларусі ад даўніх часоў.

Разам з тым трэба тут сказаць, што Ян Чачот не лічыў літаратуру галоўнай справай свайго жыцця. Ён быў надзіва самакрытычны і ведаў цапу свайму таленту. Хоць Адам Міцке-

віч вельмі шчыра захапляўся яго творамі, пісаў яму, што не бачыць у сябе вышэйшых талентаў, чым у яго, усё ж Ян Чачот не прыняў такой завышанай ацэнкі сваёй творчасці. У 1820 годзе ў пісьме да Адама Міцкевіча ён, віншуючы сябра з поспехамі ў паэзіі, выказвае шкадаванне, што сам ён «улез» у паэзію і трапіў у «лік вершапісцаў»: «Вялікая розніца — пісаць вершы і пісаць вершы сапраўдныя! Як неба ад зямлі!»

Сваё прызванне бачыў Ян Чачот у іншым — у збіранні і вывучэнні беларускага фальклору, якому ён надаваў вялікае значэнне ў змаганні за народнасць літаратуры, за яе дэмакратызацыю.

Пра фалькларыстычную дзейнасць Яна Чачота напісана даволі многа. Роля яе ў развіцці нашай культуры, нашай літаратуры агромністая. Упершыню — так, ізноў упершыню! — Ян Чачот сваімі шасцю зборнікамі беларускіх народных песень, якія ён выдаў у 1837—1846 гадах, паказаў, якія неацэнныя багацці ў народзе. І сёння без іх не абыходзяцца ні хрэстаматыі беларускага фальклору, ні анталогіі і зборнікі, у тым ліку і цяперашняе шматтомнае выданне вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа, якое выходзіць у Акадэміі навук БССР.

Вялікай увагі заслугоўвае публіцыстыка паэта. Тое, за што змагаўся ён у сваіх мастацкіх творах, тут выказаў адкрыта і недвухсэнсоўна. Вельмі многія думкі Я. Чачота гучаць актуальна і сёння. Вось як, напрыклад, гаворыць паэт пра грамадзянскую актыўнасць чалавека, пра яго патрыятычныя абавязкі: «...асабістае шчасце — у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць дабро ўласнае». Вучачы паважаць чалавека працы, паэт даводзіў, што «трэба быць нецярпімымі толькі да гультаёў, якіх мы павінны схіляць да працы». А як па-сучаснаму гучаць у нататках «Думкі, якія павінен распаўсюджваць вышэйшы клас» аўтарскія разважанні пра залежнасць дзяржаўнага ладу ў той ці іншай краіне ад грамадскай актыўнасці саміх грамадзян, ад таго, наколькі яны схільныя цярпець дэспатычную ўладу. «Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад,— сцвярджае паэт,— не можа быць кепскага ўраду там, дзе добрыя грамадзяне». І яшчэ: «найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна жаданню народа, а не па волі, капрызу і сіле аднаго».

Чытаючы творы Я. Чачота, трэба мець на ўвазе, што паэт не заўсёды мог выказвацца адкрыта. Свае радыкальныя думкі ён вымушаны быў вуаляваць. Да таго ж паэт добра разумеў, што рана яшчэ клікаць народ да адкрытага выступлення супраць царызму, да рэвалюцыі. Да гэтага яшчэ трэба было шляхам асветы падрыхтаваць грамадства: заўчаснае выступленне, акрамя шкоды, нічога не магло прынесці. Пра гэта зусім выразна кажа Я. Чачот у пісьме да А. Міцкевіча ад

26 мая 1820 года: «Для заўтрашняга сходу ў мяне ёсць пэрыоха (прадмова.— *К. Ц.*) супраць патрыятычнай балбатні. Бо запальчывыя галовы, як і мая калісьці, часта не да месца і не на карысць руху дэкламуюць экзорты; думаюць, што словамі яны ўсё могуць заваяваць, але дачасныя размовы могуць нарабіць болей шкоднага, чым добрага. Дык вось я і выказаў ім, што шум гэты пусты, што трэба перш за ўсё паляпшаць норавы, брацца за навуку і працу, а тады ўжо, шукаючы палёгкі ў нашых пакутах, вырашаць, што рабіць, каб стаць добрым патрыётам, якім чынам змагацца, каб заваяваць лепшую долю не толькі сабе, але і нашчадкам. Вельмі цяжка мне было ўтаймаваць свае парывы, я сам, кажучы пра гэтыя спосабы змагання, ледзь не стаў балбатлівы. Таму адкінуў усё, што магло б залішне запальваць, бунтаваць розум, і ўжо больш памяркоўна выказваў свае меркаванні. Ах, як гэта цяжка гаварыць, калі сам, як нявольнік! Як балюча вучыць братоў маўчанню, калі, наадварот, хацеў бы заклікаць да таго, што думаю напраўдзе!» Гэтыя словы — ключ да разумення ўсёй творчасці, усёй дзейнасці Я. Чачота ды, зрэшты, і ўсіх філаматаў. Гэтыя словы ў многім растлумачваюць тыя вонкавыя супярэчнасці ў выказаных ім думках, пра якія не раз пісалася ў нашым літаратуразнаўстве.

З публіцыстыкі, асабліва з уступных артыкулаў да зборнікаў беларускага фальклору мы бачым, якое вялікае значэнне надаваў паэт вывучэнню народнай творчасці, збіранню і зберажэнню скарбаў традыцыйнай культуры беларусаў, як высока цаніў ён першародную прыгажосць іх вуснай паэзіі.

З глыбокай павагай ставіўся Я. Чачот да мовы беларускага народа, якую ён называў крывіцкай — ад назвы крывічы, аднаго з усходнеславянскіх плямёнаў, на аснове якіх склалася беларуская народнасць (нягледзячы на тое, што продкамі беларусаў былі апрача крывічоў яшчэ і дрыгавічы, радзімічы, бужане, таксама і некаторыя буржуазныя вучоныя назву крывічы тэндэнцыйна пашыралі потым на ўвесь беларускі народ). Паэт марыў аб граматыцы і фундаментальным слоўніку беларускай мовы, такім, як «Слоўнік польскай мовы», які выдаў у 1807—1814 гг. Самуэль Багуміл Ліндэ. Я. Чачот са шкадаваннем адзначаў, што ў той час, як «іншыя дыялекты славянскага паходжання», нават невялікія народы, усё гэта маюць даўно, «крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва», наадварот, да сённяшняга дня нічога яшчэ не займела. Не чакаючы, пакуль нехта захопіцца гэтай важнай працай, паэт сам пачаў складаць слоўнічак найбольш адметных тэрмінаў Навагрудчыны. У сваіх артыкулах ён зрабіў дэталёвы разгляд асаблівасцей беларускай мовы, выявіў нават яе дыялекты. Праўда, прыпіжаючы працу Я. Чачота ў гэтым напрамку, яго гарачы заклік вывучаць беларускую мову, па-

куль яна «яшчэ ў поўнай чысціні», той-сёй з нашых літаратуразнаўцаў папракаў паэта за тое, што ён выказаў у прадмове да фальклорнага зборніка 1846 г. сумненне, ці можа яна, беларуская мова, стаць пісьмовай і развівацца самастойна. Так, лёгка нам дакараць за гэта паэта ў час, калі на беларускай мове створана сёння вялікая, вядомая ва ўсім свеце літаратура. А як жа было не засумнявацца Я. Чачоту, калі паўнаводная калісьці рака беларускай літаратуры ў яго часы амаль цалкам перасохла, калі сама беларуская мова, якая была некалі дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, аказалася ў загоне. І ўсё ж Я. Чачот адольваў свае сумненні, перамагала вера ў тое, што беларускі народ вызваліцца з-пад ярма прыгону і што літаратура на яго мове адродзіцца. Таму і ўзяўся ён пісаць па-беларуску, таму і пачаў ствараць наноў гэту літаратуру. Адзін, без ніякай падтрымкі. І хіба ж гэта была не падзея невымернай важнасці — са старонак друкаваных, выдадзеных па ўсіх правілах кніг загучала жывая беларуская мова, мова лапцюжнага прыгоннага селяніна? Дзве кнігі Я. Чачота «Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны і далучэннем іх арыгіналаў на славяна-крывіцкай мове» (1844) і «Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыказкі і ідыёмы на славяна-крывіцкай мове, і учыненымі над ёй назіраннямі» (1846) — яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова нацыянальнага адраджэння аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў.

У нашай кнізе падаецца таксама невялікая частка даволі багатай эпісталярнай спадчыны Я. Чачота. Многія паэтавы пісьмы былі апублікаваны ў розных польскіх выданнях, некаторыя параскіданы па архівах Савецкага Саюза і за мяжой, перш за ўсё ў Польшчы і, відаць, у Францыі.

Пісьмы Я. Чачота даюць добрае ўяўленне пра тое асяроддзе, у якім жыў паэт. Асабліва важныя яны для разумення тайных згуртаванняў віленскай моладзі першай чвэрці XIX ст. З таварыства філаматаў выйшла цэлае сузор'е славутасцяў. Вось некаторыя імёны. Ян Чачот — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Адам Міцкевіч — геній польскай літаратуры, Міхал Рукевіч — рэвалюцыянер-дзекабрыст (за арнізацыю ў Літоўскім асобным корпусе царскіх войск салідарнага з дзекабрыстамі таварыства «Ваенныя сябры», за адкрытае выступленне гэтага таварыства ў падтрымку паўстання на Сенацкай плошчы быў прысуджаны да шматгадовай катаргі і пасялення ў Сібіры). Ігнат Дамейка — сусветна вядомы вучоны-геолаг, даследчык Чылі, шматгадовы рэктар нацыянальнага універсітэта Сант'яга (імем яго названы горны хрыбет у Андах, адзін з чылійскіх рабочых пасёлкаў, мінерал дамейкіт, фіялка Viola domeykiana, аманіт чылійскі Amonites domeykanus, адкрытыя гэтым славутым вучоным). Юзаф Кавалеўскі —

заснавальнік манголазнаўства ў Расіі (сасланы ў 1824 годзе ў Казань, заняўся там вывучэннем мангольскіх моў; ён напісаў «Граматыку мангольскай мовы», «Трохтомны мангола-руска-французскі слоўнік», стаў прафесарам, а потым рэктарам Казанскага універсітэта, быў выбраны акадэмікам Пецярбургскай акадэміі навук, ганаровым членам некаторых замежных навуковых таварыстваў). Францішак Малеўскі — юрыст (пасля выгнання з Вільні працаваў галоўным чынам у Пецярбурзе, дзе разам з Ігнатам Даніловічам укладаў Літоўскую метрыку, стаў дырэктарам гэтай Літоўскай метрыкі, заснаваў газету «Тыгоднік Петэрбурскі». Быў знаёмы з дзекабрыстамі, зблізіўся з А. Пушкіным, П. Вяземскім, М. Палявым і інш. рускімі пісьменнікамі). Тамаш Зан — польскі паэт, арганізатар антыцарскіх згуртаванняў у Вільні і, як паказваюць новыя матэрыялы, у высылцы (рускі савецкі пісьменнік Эрнст Сафонаў, які адшукаў гэтыя матэрыялы, расказаў у сваім рамане «Казённыя людзі» пра ролю Т. Зана ў арганізацыі Арэнбургскага тайнага таварыства, пра дружбу з яго кіраўніком — Пятром Кудрашовым). Юзаф Яжоўскі — нязменны старшыня Таварыства філаматаў (быў высланы ў Маскву, працаваў там настаўнікам грэчаскай мовы, потым стаў прафесарам грэчаскай літаратуры ў Казанскім універсітэце). Ануфры Петрашкевіч — паэт, педагог (высланы з Вільні, быў нейкі час ад'юнктам Маскоўскага універсітэта; за сувязь з польскімі паўстанцамі 1830—1831 гг. быў прысуджаны царскімі ўладамі да пакарання смерцю, але пакаранне было заменена высылкай яго ў Сібір, дзе ён прабыў дваццаць гадоў). Станіслаў Казакевіч — удзельнік паўстання 1830—1831 гг., потым быў у цеснай сувязі з польскім рэвалюцыянерам Шыманам Канарскім...

Пераважная большасць філаматаў — дзеці беларускай зямлі: Я. Чачот, А. Міцкевіч, І. Дамейка, Д. Хлявінскі — з Наваградчыны, Т. Зан — з-пад Маладзечна, М. Рукевіч — з Беласточчыны, А. Петрашкевіч — са Шчучына, С. Казакевіч — з Міншчыны... Усё гэта беларуская шляхта, блізкая да сялянства яна добра ведала беларускую мову і пачынала ўжо ўсведамляць сваё сапраўднае паходжанне. Пра гэта даволі выразна кажа Я. Чачот у прадмове да «Сялянскіх песень з-пад Нёмана і Дзвіны» 1844 г., паказваючы, што народная творчасць «была некалі агульнай для ўсіх нашых продкаў: для паноў; князёў...». Шчыры дэмакратызм філаматаў яшчэ больш умацоўваў іх у гэтай самасвядомасці. Адсюль — жаданне вывучаць народную культуру, мову, ствараць літаратуру на гэтай мове. Беларускія фальклорныя матывы, мясцовыя сялянскія словы свядома ўводзілі ў свае польска-моўныя творы Тамаш Зан, Ануфры Петрашкевіч і асабліва Адам Міцкевіч, які з гонарам называў беларускую мову «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зьмененай». Словам, філаматы тэарэ-

